*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 6(166) 9 лютага 1994 г. Кошт — 20 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**ПЕРАМОВЫ ПАМІЖ БЕЛАРУСКІМІ І РАСІЙСКІМІ ЭКСПЕРТАМІ АБ УМОВАХ АБ'ЯДНАННЯ ГРАШОВА-КРЭДЫТНЫХ СІСТЭМ ПРАЦЯГВАЮЦЦА ПАД ПОКРЫВАМ САКРЭТНАСЦІ.** *У інтэрв'ю газеце «Звязда» Вячаслаў Кебіч сказаў: «Я мяркую, курс абмену безнаяўнага рубля будзе 1:3. Расія патрабуе, каб наяўны разлік быў гэткім жа. Але мы на гэта не пойдзем». Што ж, паглядзім, тым больш, што 10 лютага Менск наведае кіраўнік Расійскага парламента Віктар Чарнамырдзін.*

**НЕ ДАЧАКАЎШЫСЯ АД ВЯРХОЎНАГА САВЕТА І ЎРАДА РАЗГЛЯДУ ПАТРАБАВАННЯЎ ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ 176 ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ,** якія 12 студзеня прымалі ўдзел у акцыі пратэсту «Не — збядненню народа!», лідэры рэспубліканскіх прафсаюзаў накіравалі ў адрас Старшыні Вярхоўнага Савета і Прэм'ер-міністра заявы. У іх, у прыватнасці, канстатуецца, што Вярхоўны Савет і ўрад праігнаравалі патрабаванні працоўных аб прызначэнні датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет і правядзенне іх не пазней сакавіка 1994 года.

**У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ НАРАДА СТАРШЫНЬ СТРАЙКАМАЎ КРАІНЫ.** *Удзельнікі нарады прагаласавалі за тое, каб пачаць 15 лютага 1994 года агульнанацыянальны бестэрміновы палітычны страйк.*

**СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ ДАЎ ДАРУЧЭННЕ** выконваючаму абавязкі старшыні КДБ Беларусі Генадзю Лавіцкаму разабрацца з рашэннем рэспубліканскага страйкавага камітэта, у якім, на яго думку, змяшчаецца заклік да насільнага звяржэння ўлады.

**У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ПРЭС-ЦЭНТРЫ АДБЫЛАСЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ДЛЯ ЖУРНАЛІСТАЎ З УДЗЕЛАМ СТАРШЫНІ ПАРТЫІ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ, ДЭПУТАТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКІ.** *Падчас прэс-канферэнцыі кіраўніцтвам ПНЗ было сказана, што адстаўка «сілавых» міністраў, Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча — элементы аднаго сцэнарыя: узмацнення аўтарытарнай сістэмы, манапалізацыі ўлады выканаўчымі структурамі праз сваю большасць у Вярхоўным Савеце.*

*Было адзначана, што ПНЗ — прыхільнік моцнай прэзідэнцкай улады. Але Прэзідэнт Беларусі павінен быць выбраны не Вярхоўным Саветам, а шляхам усенароднага рэферэндуму.*

### ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

## У Сакратарыяце ТБМ імя Ф. Скарыны

*2 лютага адбылося чарговае пасяджэнне Сакратарыята ТБМ імя Ф. Скарыны, на якім абмеркаваны пытанні:*

1. Аб дзейнасці аўдыёвізуальнай камісіі ТБМ.
2. Аб правядзенні пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Па першаму пытанню інфармацыю зрабіў сябра Сакратарыята ТБМ, старшыня аўдыёвізуальнай камісіі Генадзь Вінярскі. Ён падкрэсліў, што галоўнымі задачамі камісіі з'яўляюцца:

садзейнічанне ў паўсюдным стварэнні беларускамоўнага зрокавага і гукавога асяроддзя; пашырэнне беларускамоўнай аўдыёвізуальнай інфармацыі ў дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях, ва ўстановах культуры, на прадпрыемствах гандлю, на транспарце, у інтэр'ерах збудаванняў, у рэкламе, экскурсійным і бытавым абслугоўванні;

спрыянне перакладу на беларускую мову ўсіх надпісаў на манументальных помніках, збудаваннях, дарожных і тапанімічных знаках, ахоўных і мемарыяльных дошках, пры афармленні святочных шэсцяў, народных гульняў і святаў, сувенірных вырабаў, паштовак, канвертаў, марак, транспартных білетаў і многіх іншых выданняў і вырабаў.

Што ўжо здзейснена камісіяй за апошні час?

Распрацаваны прынцыпы і накірункі работы, размеркаваны абавязкі паміж сябрамі камісіі, зроблены захады па ўмацаванні сувязі з другімі камісіямі ТБМ (па культуры мовы, тапанімічнай, тэрміналагічнай, выдавецкай і інш.), наладжаны сувязі з некаторымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

У ходзе абмеркавання, у якім удзельнічала большасць сяброў Сакратарыята, было адзначана, што работа гэтай камісіі пакуль яшчэ знаходзіцца ў першапачатковым стане. Выказаны наступныя прапановы і пажаданні:

— пашыраць склад камісіі, больш актыўна выкарыстоўваць у практычнай рабоце сродкі масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачанне) і, у прыватнасці, газету «Наша слова», устанавіць сталыя сувязі з мясцовымі арганізацыямі ТБМ і, у першую чаргу, абласных цэнтраў і буйнейшых гарадоў Рэспублікі Беларусь. Асаблівую ўвагу надаць сувязям камісіі з арганізацыямі — заснавальнікамі ТБМ. Прысутныя пагадзіліся з думкай, што арганізацыя плённай работы камісіі ТБМ — адна з галоўных задач Сакратарыята.

Па другому пытанню вырашана правесці пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ 11 сакавіка г. г. (яно адбудзецца ў канферэнц-зале Дома літаратара. Пачатак а 14-й гадзіне). На абмеркаванне выносяцца два пытанні:

Аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ імя Ф. Скарыны (паведамленні нам. старшыні ТБМ Я. Цумарава і С. Запрудскага).

Аб газеце «Наша слова» (паведамленне галоўнага рэдактара Э. Ялугіна і нам. старшыні ТБМ Зм. Санько).

На заканчэнне сябры Сакратарыята выказалі прапанову звярнуцца да ўсіх арганізацый ТБМ, усіх прыхільнікаў беларускай мовы правесці пэўныя мерапрыемствы па актывізацыі работы ТБМ у сувязі з надыходзячым юбілеем — пяцігоддзем Устаноўчага з'езда ТБМ (27 чэрвеня 1994 года).

Сакратарыят ТБМ.

## Нацыянальная канферэнцыя аб праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі адбудзецца ў траўні

Арганізацыйны камітэт паведамляе, што з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры ўдзеле Міністэрства інфармацыі і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Беларускай энцыклапедыі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны 4—6 траўня 1994 года ў г. Менску адбудзецца Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». На ёй будуць разгледжаны пытанні распрацоўкі беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, укладання рознагаліновых слоўнікаў, практычны досвед айчыннай тэрмінатворчай дзейнасці.

Аргкамітэт просіць паведаміць пра намер удзельнічаць у канферэнцыі, падаць назоў даклада (паведамлення) і кароткую анатацыю зместу аб'ёмам да 200 знакаў. Анатацыі мяркуецца змясціць у праграме канферэнцыі, а даклады і разгорнутыя паведамленні — надрукаваць у спецыяльным выніковым зборніку.

Просім удзельнікаў канферэнцыі паведаміць таксама пра сябе: імя і прозвішча, месца працы і пасада, навуковая ступень, навуковае званне, службовы і хатні адрасы, тэлефоны, патрэба ў гатэлі.

Заяўкі на ўдзел дасылайце да 1 сакавіка 1994 г. на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13, ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі.

Даведачныя тэлефоны: (0-172) 33-25-11, 39-50-61, 39-44-77.

## НА ПАДПІСКУ ДАДЗЕНА ТОЛЬКІ 30 ДЗЁН!




### Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!

З 10 лютага па 10 сакавіка праводзіцца падпіска на беларускую перыёдыку на II квартал 1994 года. Падпісная цана на наш штотыднёвік (з улікам паслуг сувязі)
на 1 месяц — 150 рублёў;
на 3 месяцы — 450 рублёў;

ІНДЭКС 63865.

### *Удакладняем!*

На працягу апошніх месяцаў здараліся выпадкі, калі ў рэдакцыю дасылалі грошы на афармленне падпіскі. Удакладняем, што рэдакцыя падпіскай не займаецца. У Беларусі на «Наша слова» можна падпісацца ў любым аддзяленні «Саюздруку» або «Менскай пошты». Што да падпіскі за яе межамі, то, паколькі «Наша слова», як нам паведаміла супрацоўнік аддзела падпіскі «Менская пошта» Матусевіч Яўгенія Мікалаеўна, уключана ў каталог Цэнтральнага рознічнага падпіснога агенцтва (дапаўненне № 2) на I паўгоддзе 1994 года, падпіска прымаецца па месцы жыхарства па тых расцэнках, якія там устаноўлены.

# Васіль ЗУЁНАК: «Партызаніць і эксперыментаваць на абшарах мовы недаравальна»

Старшыня Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі вядомы паэт Васіль Зуёнак даў інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Звязда» (№ 11), у якім закрануў і праблемы мовы. На пытанне, як сябе адчуваюць зараз «у рыначных» умовах беларускія пісьменнікі, Васіль Зуёнак сказаў: «Нам звычайна падказваюць: рынак, маўляў, дык старайцеся пісаць так, каб кнігі вашы вытрымлівалі рыначную канкурэнцыю. Зарабляйце гандлем! Стараемся... Але ж, па-першае, літаратура нешта трохі іншае, чым тавары шырспажыву, чым «Снікерс» ці «Твікс» — «салодкая парачка». А па-другое, таварышы ды панове, давайце зробім так, каб родная мова вярнулася ў кожную беларускую хату, кватэру, школу, ВНУ, каб стала не толькі дэкаратыўнай аздобай пэўных грамадскіх імпрэз, а натуральным сродкам штодзённага быцця нацыі. Вось тады можна сур'ёзна гаварыць аб сталым пасадзе беларускага мастацкага слова».

Не абышлі ўвагай суразмоўцы пытання аб стане сучаснай беларускай мовы. «Ці адчуваеце Вы як пісьменнік, — спыталася карэспандэнт у Васіля Зуёнка,— нейкія «недахопы», «заганы» сучаснай літаратурнай мовы? Вы хацелі б нечага больш дасканалага? Нейкіх дадатковых моўных сродкаў?» На што Васіль Зуёнак зазначыў: «Наша літаратурная мова, я лічу, ідзе правільным шляхам. Яна развіваецца. Калі вы маеце на ўвазе спрэчкі вакол правапісу, то я за яго ўдасканаленне. Змены, думаю, павінны быць разумнымі, навукова абгрунтаванымі. Як удзельнік дзяржаўнай правапіснай камісіі бачу, што да гэтага ўсё больш горнецца наша агульная думка. Трэба, безумоўна, арыентаваць правапіс на жывое, натуральнае гучанне. Але не трэба за вушы прыцягваць і вяртаць тое, што было штучна прыўнесена і не прайшло праверкі часам. Нідзе ніколі я не чуў у народзе, каб казалі «глёбус». Нашто ж дзівіць і адпуджваць ім людзей, выскакваць, як кажуць, папярод бацькі? Мова і так у складанейшай сітуацыі. І лепш проста даць ёй магчымасць паўнакроўна жыць, развівацца, чым «партызаніць» і эксперыментаваць на яе абшарах.

*У газетах*

## Чакаюць дзевятага падзелу?

Уплывовы штотыднёвік «Россия» (№ 51 за мінулы год) апублікаваў гутарку з мэрам Санкт-Пецярбурга, адным з кіраўнікоў Расійскага руху дэмакратычных рэформ і, дададзім, дарадчыкам Прэзідэнта Расіі А. Сабчаком, які, у прыватнасці, заявіў, што, магчыма, «многие российские территории, переданные... Белоруссии, со временем вернутся в состав России».

Адзначым, што за апошні час гэта ўжо другі выпадак, калі на вельмі высокім дзяржаўным узроўні расійскі бок публічна выказвае прэтэнзіі на нашу зямлю (першую падобную заяву зрабіў міністр замежных спраў Расіі А. Козыраў).

У кнізе «Беларусь на сямі рубяжах», якая нядаўна выпушчана ў свет, гаворыцца, што ў XX стагоддзі наша Бацькаўшчына ўжо перажыла восем падзелаў, ажыццёўленых без яе волі. Наш Вярхоўны Савет і ўрад змест згаданых расійскіх заяў, бясспрэчна, ведаюць, але ў адказ адтуль — ні гу-гу. Чакаюць моўчкі дзевятага падзелу?

М. В.

# Моладзь — за беларускасць

Як толькі ў Вярхоўным Савеце ў каторы раз «инородные», як у нас іх празвалі, дэпутаты пачынаюць прыніжаць статус беларускай мовы як дзяржаўнай ды навязваць «двуязычие», так у нас у Пінскім педвучылішчы стыхійна сярод навучэнцаў узнімаюцца хвалі пратэсту. Па гарачых слядах накіравалі студэнты і выкладчыкі ў Вярхоўны Савет тэлеграму, а таксама ліст ў падтрымку адзінай дзяржаўнай мовы — беларускай, пад якім падпісаліся 146 чалавек. А магло б быць подпісаў значна болей, каб не спяшаліся адаслаць. Адбылося таксама стыхійнае апытанне — хто як ставіцца да «двухмоўя»: некаторыя выкладчыкі «за», а вось пераважная большасць моладзі, недзе каля 80 працэнтаў, — толькі за дзяржаўнасць беларускай.

Хачу таксама адзначыць, што ў нас актыўна падтрымліваюць штотыднёвік «Наша слова». Падпісаліся на яго каля 150 чалавек. Дарэчы, падпісацца на «Наша слова» не заўсёды аказвалася проста. Так, маёй навучэнцы адмовілі ў падпісцы ў паштовым аддзяленні Барычавічы Пінскага раёна на той падставе, што больш гэтае выданне ў вёсцы ніхто не выпісвае і таму газета будзе «губляцца».

С. ДЗМІТРЫЕВА,
Пінскае педвучылішча.

*Ад рэдакцыі.*

Вельмі прыемна, што «Наша слова» атрымлівае грунтоўную падтрымку ў асяродку маладой беларускай інтэлігенцыі — будучых настаўнікаў. Пастараемся апраўдаць іх давер.

Што да адыёзнага здарэння ў паштовым аддзяленні Барычавічы, то, спадзяёмся, там не дадумаліся яшчэ, каб і пісьмы «губляць» па прычыне, што яны ў адным экземпляры. А ўвогуле пра розныя падобныя здарэнні мы будзем інфармаваць цэнтральныя кіруючыя органы Беларускай пошты.

***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ АДОБРЫЎ У ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ ЗАКОНАПРАЕКТ АБ ПАРТЫЯХ.*** *Згодна з ім для стварэння партыі неабходна сабраць 300 чалавек, якія пажадалі б аб'яднацца на агульных прынцыпах.*

***ЭКСПЕРТЫ МІЖНАРОДНАГА ВАЛЮТНАГА ФОНДУ РАЗУМЕЮЦЬ*** *імкненне кіраўнікоў Беларусі да эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, але лічаць, што для гэтага не абавязкова грашова-крэдытны саюз. Ён можа мець для Беларусі і адмоўныя вынікі, калі не стабілізуецца эканоміка ў самой Расіі. А да стабілізацыі ў Расіі далёка!*

# У МАЛДОВЕ — ІНАКШ

На Беларусі, на жаль, стала нормай, што ў пераважнай большасці выпадкаў рускамоўныя рэспубліканскія і мясцовыя газеты непрыхільна, а то і варожа ставяцца да нацыянальнага Адраджэння. Старонкі гэтых газет звычайна стракацяць матэрыяламі, накіраванымі супраць дзяржаўнасці роднай мовы, супраць нашай гістарычнай нацыянальнай сімволікі, якая нядаўна зноў набыла, урэшце, легітымны дзяржаўны статус. Ганьбуючы айчынную мінуўшчыну, рускамоўныя газеты працягваюць укараняць у і без таго невысокай грамадскай свядомасці беларусаў татальныя пачуцці ўласнай нацыянальнай непаўнацэннасці, заклікаюць іх кіравацца нейкай агульнаславянскай еднасцю, галоўным сусветным носьбітам якой нібыта з'яўляецца наш «старэйшы брат» і ўся праваслаўная Расія. Там можна знайсці і адкрытыя выпады супраць літаральна ўсяго, што прама ці ўскосна працуе на ўмацаванне нацыянальнага суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У сваёй дружнай атацы на беларускасць рускамоўныя газеты рэспублікі часам скочваюцца да ўзроўню адыёзных перыядычных выданняў тыпу «Политика. Позиция. Прогноз», «Мы и время», розных лісткоў так званых «Славянских соборов» і гэтак далей.

Між тым у іншых рэгіёнах былога СССР зараз далёка не ўся мясцовая рускамоўная прэса займае падобную антыдзяржаўную пазіцыю. Зусім іншае становішча назіраецца, напрыклад, у Малдове, дзе, нагадаем, агульная ўнутрыпалітычная сітуацыя да крытычнай масы абвострана крывавымі ўзброенымі канфліктамі, абумоўленымі спробамі замежных краін разыгрываць «малдаўскую карту», не спыняючыся ні перад чым.

Гартаем адзін з мінулагодніх снежаньскіх нумароў шырокапаласнага рускамоўнага штотыднёвага дадатку («Дайджэст») газеты «Moldova Suverana» («Суверенная Молдова»).

Адзначым, што згаданае выданне ў першую чаргу разлічана на тых грамадзян Малдовы, якія па розных прычынах недастаткова валодаюць румынскай мовай (за апошняй юрыдычна замацаваны статус адзінай дзяржаўнай мовы рэспублікі). У штотыднёвым дадатку друкуюцца свежыя афіцыйныя матэрыялы — указ прэзідэнта Малдовы і Пастанова малдаўскага ўрада, а таксама тлумачэнні некаторых палажэнняў рэспубліканскага зямельнага заканадаўства. У рубрыцы «Права на меркаванне» апублікаваны вялікі, даволі рэзкі артыкул В. Адаляну «Атэстацыя на веданне дзяржаўнай мовы...», які ўбачыў свет на палосах «Суверенной Молдовы» ў пачатку снежня. Аўтар, у прыватнасці, выказвае абурэнне тым, што сям-там аб'явы паранейшаму яшчэ пішуцца па-руску, што доктар у нейкай паліклініцы па-руску адказвае на прывітанне пацыента, які звярнуўся да яго на дзяржаўнай мове і гэтак далей. Адчуваецца рэзкі кантраст з рэаліямі беларускай рэчаіснасці, дзе, як і ўчора, роднае слова знаходзіцца ў стане нялюбай, зацюканай падчаркі.

Амаль палавіна матэрыялаў нумара прысвечана грунтоўнаму, незласліваму і разважліваму аналізу прыдністроўскага сепаратызму, які дагэтуль пагражае існаванню суверэннай Малдовы. Рускамоўным грамядзянам рэспублікі пераканаўча, на фактах даводзіцца, што асноўная прычына вайны ў Прыднястроўі — імперскія амбіцыі Расіі, якая яшчэ ніяк не можа развітацца з уласнымі вялікадзяржаўнымі геапалітычнымі інтарэсамі ў Цэнтральнай Еўропе.

Як вядома, у эканоміцы Малдовы важкую ролю адыгрывае аграрны сектар. Таму, натуральна, што сучасныя набалелыя пытанні сельскіх жыхароў не могуць быць пакінуты без належнай увагі дэмакратычнай газеты. Ледзь не цэлую старонку гэтага нумара займае матэрыял у рубрыцы «Прыватызацыя — выратавальны круг», дзе на прыкладзе адной з тыповых малдаўскіх вёсак асветлены праблемы прыватызацыі ў сельскай гаспадарцы. Аўтар артыкула ўпэўнены, што калгасы — учарашні дзень вяскоўцаў, што ва ўмовах рэспублікі ўстойлівы народны дабрабыт можа грунтавацца толькі на фермерстве, якое забяспечвае плённую, самастойную працу гаспадароў на ўласнай зямлі.

Як бачым, агульны змест усяго нумара рускамоўнага малдаўскага «Дайджэста» цалкам адпавядае шляхам і мэтам дзяржаўнага будаўніцтва ў рэспубліцы, працуе на ўзмацненне суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці Малдовы. Шкада, што на Беларусі пераважная большасць рускамоўных газет знаходзіцца зусім на іншых пазіцыях.

М. В.

*МЕРКАВАННІ*

# На дзейнасць паглядзець без

***Наш народ нямала пацярпеў ад рэпрэсій былога бальшавіцкага рэжыму. Асабліва бесчалавечнасцю вылучаюцца рэпрэсіі супраць многіх навучэнцаў сярэдніх школ і гімназій, а таксама сяброў Саюза беларускай моладзі (СБМ)— маладзёжнай нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі, якая пэўны час існавала на ўсёй акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі.***

**Але, як сведчаць факты, і сённяшняе кіраўніцтва рэспублікі, якое складаецца пераважна з былых партыйных функцыянераў, нават у новай палітычнай сітуацыі ставіцца да гэтай арганізацыі, да былых сяброў яе, як да здраднікаў. Рашэннем Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча мінулым летам была забаронена сустрэча сяброў Саюза беларускай моладзі, якую ладзіла Згуртаванне беларускіх студэнтаў напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету. Матывацыя ранейшая: СБМ — паслугач гітлераўскіх захопнікаў. Не спыняецца шалёная кампанія па дыскрэдытацыі гэтай арганізацыі і яе былых сяброў пракамуністычнымі сродкамі інфармацыі. У газеце «Политика. Позиция. Прогноз» (№ 10 за снежань 1993 г.) надрукаваны адкрыты ліст менскага гарадскога клуба гістарычных ведаў Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, у якім — абразлівыя нападкі на «Народную газету», «Літаратуру і мастацтва», «Звязду», а таксама «Беларускі гістарычны часопіс». Апошні нібыта скажае гістарычную праўду з мэтай ачарніць савецкую рэчаіснасць. Наконт Саюза беларускай моладзі там гаварылася наступнае: «Клуб исторических знаний с удовлетворением встретил опубликованную в печати информацию, что Совет Министров РБ издал распоряжение о недопустимости каких-либо мероприятий, связанных с так называемым юбилеем СБМ. Это означает, что правительство республики защитило советских граждан от публичного выступления апологетов национал-фашизма».**

**Ад гэтых радкоў вее дрымучай бальшавіцкай дэмагогіяй, крайняй рэакцыйнасцю мыслення іх аўтара. Добра, што ў мінулым годзе выйшла кніжка прафесара Юры Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дзе аўтар на падставе шырокіх архіўных матэрыялаў доказна сцвярджае: СБМ быў нацыянальнай беларускай патрыятычнай арганізацыяй моладзі. Аб яе папулярнасці сярод моладзі гаворыць той факт, што толькі за адзін год, з 1943 па 1944, у яе ўлілося каля 100 тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат. Падкрэслім, што гэта рабілася выключна добраахвотна. Ці можа нармальны чалавечы розум уявіць, каб за такі кароткі тэрмін такая значная колькасць маладых беларусаў раптоўна стала прыхільнікамі фашысцкай ідэалогіі?!**

**СБМ ахопліваў у асноўным вучнёўскую моладзь ва ўзросце 15—17 гадоў, якая пераважна займалася культурна-асветніцкай дзейнасцю. Вядома, форма сяброў арганізацыі, эмблемы з выявай Пагоні, бел-чырвона-белы сцяг у некаторай ступені вабілі моладзь. Але ж галоўнай прычынай бурнага росту СБМ стала ідэя нацыянальнага Адраджэння і незалежнасці Беларусі. Такую арганізацыю абсалютна нельга было ўявіць ні пры panаванні Польшчы ў Заходняй Беларусі, ні тым больш пры Саветах. Нават нямецкая адміністрацыя насцярожылася, пабачыўшы, з якім энтузіязмам праводзіліся мерапрыемствы СБМ. Відаць, векавая прага да незалежнасці нашага прыгнечанага народа на імгненне выявілася праз настроі менавіта маладога тагачаснага пакалення, нягледзячы на ваеннае ліхалецце, на безнадзейнасць палітычнага становішча.**

**Дарагой цаной давялося за-**

# «Дзеці — лепшыя паслы дзяржавы»

Мы былі ў Англіі, а дакладней, у Валіі, з 13 ліпеня па 10 жніўня. Мы — гэта дванаццаць вучняў Менскай нядзельнай грэка-каталіцкай царквы і двое дарослых, якія іх суправаджалі. З беларускага боку паездка была арганізавана старшынёй дзіцячага фонду духоўнага і інтэлектуальнага адраджэння «Сакавік» спадарыняй Марыяй Міцкевіч. Створаны ў сакавіку 1993 года фонд адной з сваіх высакародных мэт ставіць вяртанне моладзі да традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцяў, садзейнічае аздараўленню дзяцей, імкнецца паспрыяць развіццю юных талентаў. Часу на арганізацыю гэтай паездкі было вельмі мала, але дзякуючы Богу і намаганням цудоўнага чалавека Апостальскага Візітара Беларусі айца Аляксандра Надсана яна адбылася.

Дзевяць дзяўчынак і трое хлапчукоў ва ўзросце ад 9 да 12 гадоў упершыню пакінулі межы Беларусі і, калі адкінуць доўгае зняважлівае чаканне на Гродзенскай мытні, увесь астатні час яны былі сагрэты душэўным цяплом тых валійскіх сем'яў, што гасцінна іх прытулілі. Горад Ньюпарт і вёска Калдзікот, уся валійская зямля сталі для нас родным домам, дзе жывуць мілыя, шчырыя і сардэчныя людзі. «Мы хрысціяне, — не аднойчы паўтарала місіс Марсія Дойл, — і каб я магла, то б усіх беларускіх дзяцей перанесла на чыстую зямлю».

Ужо трэці год запар містэр і місіс Дойл прымаюць у сваім гасцінным доме беларускіх дзяцей. Дарэчы, самі яны выхавалі трох уласных дзяцей, пасля ў сваю сям'ю прынялі трох дзяцей цёмнаскурых. Усім далі адукацыю і вывелі ў людзі. Яны арганізавалі нам сустрэчу з мэрамі горада Ньюпарта і вобласці Гвент. Нашы дзеці спявалі беларускія і рэлігійныя песні ў хрысціянскіх храмах і касцёлах. «Вашы дзеці — лепшыя паслы сваёй дзяржавы», — сказаў айцец Майкл Хеа, святар касцёла Святога Патрыка ў Ньюпарце.

У час знаходжання ў Вялікабрытаніі мы таксама наведалі беларускую царкву, дзе айцец Надсан служыць літургіі за ўвесь беларускі народ, за яго незалежнасць, за дзяцей Беларусі. Мы агледзелі выставы музея, створанага айцом Аляксандрам. З вялікай пашанай і любоўю да роднай Беларусі збіраў гэты святар экспанаты для музея, якія адлюстроўваюць лепшыя старонкі гісторыі роднага краю. Многа агульнага знайшлі мы і нашы валійскія сябры ў гісторыі нашых земляў. Нашы прапрадзеды аднолькава апрацоўвалі зямлю, аднолькава пралі і ткалі. У заняпадзе зараз знаходзяцца валійская і беларуская мовы, але, відаць, моўнае становішча ў нас куды горшае, ды й жывём мы на Беларусі значна горш за сваіх валійскіх сучаснікаў.

За час знаходжання ў Валіі нашы дзеці не толькі акрэплі фізічна, але і атрымалі вялікі духоўны ўрок бескарыснай хрысціянскай міласэрнасці. «Святы Дух жыве ў табе ў ва мне, і ён вядзе нас да святла, імя якога Хрыстос», — спявалі дзеці разам з нашымі валійскімі сябрамі. Сімвалічныя сэрцы, якія нашы дзеці падаравалі валійскім сябрам, будуць нагадваць у далёкай Валіі пра Беларусь.

Тамара КАШУБА.

# Даследуюцца інтарэсы вучняў

*На базе Бялыніцкай СШ № 1 з бягучага навучальнага года працуе група настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры школ раёна, якія даследуюць праблему развіцця інтарэсаў у дзяцей да засваення нацыянальных культурных каштоўнасцей, традыцый, звычаяў і абрадаў беларускага народа. У склад гэтай групы ўвайшлі педагогі раёна — настаўніцы СШ № 2 Л. А. Казлоўская, Цяхцінскай СШ В. Я. Астаф'ева, Кіраўскай НСШ В. П. Вільнеўская, Вішоўскай СШ Л. І. Куляшова. Каардынуе дзейнасць групы пераможца леташняга раённага конкурсу «Настаўнік года» выкладчыца роднай мовы і літаратуры СШ № 1 Т. І. Балдышэўская.*

*Міхась КАРПЕЧАНКА,*
*старшыня Бялыніцкай*
*раённай рады ТБМ.*

# СБМ настаў час бальшавіцкай зашоранасці

**плаціць пазней за гэтае юнацкае памкненне да беларускасці. Многіх юнакоў саслалі ў лагеры, астатніх зрабілі людзьмі другога гатунку, пазбавіўшы істотных грамадзянскіх правоў. Напрыклад, былым сябрам СБМ было цяжка атрымаць вышэйшую адукацыю. Ведаю гэта па сабе, бо з'яўляўся сябрам СБМ, калі з 1942 па 1944 гг. вучыўся ў Маладзечанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе. Менавіта за гэта мне двойчы (адзін раз у Вільні, другі — у Менску) было адмоўлена ў атрыманні вышэйшай мастацкай адукацыі.**

**Нарэшце наша краіна апынулася ў новай палітычнай сітуацыі. Герб Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнай сімволікай. Здавалася б, што і на дзейнасць СБМ настаў час паглядзець без бальшавіцкай зашоранасці. Але нашы ўрадаўцы, якія ў сваёй большасці складаюцца з былых партфункцыянераў, не спяшаюцца развітвацца з ідэалогіяй колішняга рэжыму. На словах яны выступаюць за гуманізм і дэмакратыю, а на справах прымаюць зусім іншыя рашэнні.**

**Сёння дакладна высветлена, што СБМ не ўдзельнічаў у ваенных акцыях. Калі, напрыклад, паспрабаваць параўнаць СБМ з камсамолам, то да апошняга павінна быць нашмат больш прэтэнзій. Мяркуйце самі. На рахунку гэтай маладзёжнай арганізацыі (не ў прыклад СБМ) мноства ўчынкаў, якія нанеслі велізарную шкоду нацыянальным інтарэсам нашага народа. Гэта і ўдзел у так званай класавай барацьбе падчас калектывізацыі, і дэпартацыя беларускіх сем'яў у Сібір і Казахстан, і змаганне з рэлігіяй, у выніку чаго загінула вялікая колькасць помнікаў культуры і архітэктуры, і спрыянне русіфікацыі нашай моладзі, і зусім яшчэ нядаўнія выступленні камсамола супраць дэмакратычных змен. Менавіта камсамол быў палітычным рэзервам партыі, якая сябе цалкам скампраметавала. Да слова, якраз камсамольцамі папаўняліся спецыяльныя аддзелы карных органаў НКУС, на рахунку якіх безліч злачынстваў і беззаконня. Гэта з камсамольскім білетам у кішэнях і чырвонымі зоркамі на шапках расстрэльвалі невінаватых людзей у Курапатах і турэмных засценках. Між тым, і сёння камсамол працягвае дзейнічаць легальна, за мінулае яго пакуль ніхто не збіраецца прыцягваць да адказнасці. Чаму ж да Саюза беларускай моладзі, віна якога нікім не даказана, стаўленне ранейшае — бальшавіцкае?! Дзе ж праўда?**

**Я лічу, што вядзецца планамерная дыскрэдытацыя не так Саюза беларускай моладзі, як самой ідэі незалежнасці беларускай нацыі. З публікацый у сённяшніх пракамуністычных выданнях бачна, што сучасным прыхільнікам беларускасці і суверэнітэту таксама навешваюцца ярлыкі нацыянал-экстрэмістаў і нават апалагетаў фашызму.**

**Пад кіраўніцтвам урада вядзецца планамерная паслядоўная разбуральная дзейнасць не толькі ў эканоміцы. Мэтанакіравана ідзе барацьба супраць усяго, што замінае аб'яднанню з Расіяй. Таму розныя пракамуністычныя партыі і клубы разам з рэакцыйнай большасцю ў парламенце беспакарана бэсцяць нашу гістарычную дзяржаўную сімволіку, дамагаюцца ўвядзення «двуязычия», скасавання Віскулёўскіх пагадненняў і нават аднаўлення СССР.**

**Над беларускім народам і кволым яго суверэнітэтам навісла вялікая пагроза. І толькі рашучыя дзеянні свядомай патрыятычнай часткі нашага грамадства могуць супрацьстаяць ворагам беларушчыны.**

**У свой час «Настаўніцкая газета» (№ 10, чэрвень 1992 г.) апублікавала матэрыял супрацоўніцы газеты «Наша слова» Г. Хаткевіч пад назвай «Яны думалі пра незалежную Беларусь». Там ішла гаворка пра патрыятычнае падполле сярод беларускай вучнёўскай моладзі ўжо ў савецкі перыяд, у 1946—48 гг. А яшчэ ў «Нашым слове» (№№ 16, 17, 18 за мінулы год) апублікаваны допісы саміх удзельнікаў гэтага руху: Васіля Супруна, Аляксандры Умпіровіч (Фурс), Антона Фурса і Германа Кірылава з Полацка, у якіх больш дэталёва паведамлялася аб нелегальных суполках гэтага руху ў розных гарадах і мястэчках Беларусі. Паведамлялася аб іх разгроме, арыштах і жорсткіх прысудах. Юнакоў і дзяўчат засудзілі на вялікія тэрміны зняволення толькі за тое, што яны імкнуліся супраціўляцца русіфікацыі, бараніць сваю мову і культуру. Сённяшняе грамадства пра гэта амаль нічога не ведае. Я таксама не сустракаў раней звестак пра Саюз беларускіх патрыётаў, у які ўваходзілі вучні Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў. Але ведаю, што рэпрэсіі супраць сяброў СБМ пачаліся менавіта ў той час, калі ўзнялася кампанія па падаўленні беларускага адраджэнскага руху. Ведаю прыклады, калі сябры СБМ у 1944, 1945 гг. былі спярша прызваны ў Савецкую Армію, ваявалі, атрымоўвалі баявыя ўзнагароды, а ўжо потым, пасля перамогі, іх арыштоўвалі, часам прама ў войску, і судзілі, прыпісваючы здраду беларускаму народу, як і ўдзельнікам пасляваеннага патрыятычнага падполля.**

**Мы лічымся і сёння ворагамі свайго народа. Неабходна разарваць гэты пачварны ланцуг несправядлівасці. Было б вельмі добра, каб рэдакцыя «Нашага слова» дапамагла мне наладзіць сувязі з сябрамі былога Саюза беларускіх патрыётаў, з іншымі ўдзельнікамі падполля і тымі, хто належаў да Саюза беларускай моладзі. Не губляю надзеі стварыць асацыяцыю былых ахвяр беспадстаўна рэпрэсіраваных маладых патрыётаў. Прашу былых сяброў згаданых арганізацый пісьмова паведаміць пра сябе ў рэдакцыю «Нашага слова».**

**Кастусь ХАРАШЭВІЧ,**
**член Саюза**
**мастакоў Беларусі,**
**пенсіянер.**
**г. Маладзечна.**

*Філалогія*

# Шляхі слова — шляхі народаў

***Гутарка з загадчыкам аддзела гісторыі беларускай мовы, доктарам філалагічных навук, прафесарам А. М. Булыка***

**— Аляксандр Мікалаевіч, Вашы навуковыя інтарэсы пераважна звязаны з праблемамі даследавання гісторыі беларускай літаратурнай мовы. З чаго пачынаўся Ваш творчы шлях у мовазнаўстве?**

— Пасля філфака БДУ я працаваў настаўнікам Асоўскай сярэдняй школы Воранаўскага раёна, пазней завучам Воранаўскай школы-інтэрната. З 1962 года працую ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прайшоў тут шлях ад аспіранта да сённяшняй пасады. У 1980 годзе абараніў доктарскую дысертацыю.

**— Вядомы шэраг Вашых прац, прысвечаных даследаванням асаблівасцей і спецыфікі запазычанай лексікі старабеларускай мовы. У чым іх сутнасць?**

— У даследаваннях «Даўнія запазычанні беларускай мовы», «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» на вялікім фактычным матэрыяле мне ўдалося прааналізаваць старабеларускія запазычанні з моў царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай, грэчаскай і інш., раскрыць іх семантыку і этымалогію і паказаць шляхі, якімі словы з гэтых моў пранікалі ў беларускую і замацоўваліся ў ёй, як праз розныя паводле жанраў і стыляў пісьмовыя помнікі запазычаныя словы далучаліся да актыўнага слоўнікавага запасу беларускага насельніцтва. Тут былі падрабязна разгледжаны розныя тэматычныя пласты запазычанай лексікі: грамадска-палітычнай, юрыдычна-прававой, канцылярскай, сацыяльна-эканамічнай, ваеннай, рэлігійнай, навукі і асветы, літаратуры і мастацтва, батанічнай, медыцынскай, словы паўсядзённага ўжытку, грашовыя адзінкі, назвы адзення і абутку, назвы тканін, скур і вырабаў з іх і інш. На падставе такога даследавання я прыйшоў да высновы, што запазычанні XIV—XVIII стст. значна ўзбагацілі слоўнікавы склад старабеларускай мовы, дапоўнілі ў лексічнай сістэме амаль усе семантычныя звёны, сінанімічныя рады, што павысіла дыферэнцыяцыю і стылістычную гнуткасць мовы, пашырыла абсягі тэрміналогіі і значна палепшыла камунікатыўныя здольнасці нашай мовы.

**— Вядома, што пэўную ўвагу Вы надавалі вывучэнню розных недаследаваных аспектаў буйных помнікаў беларускай пісьменнасці, а таксама даследаванням царкоўнаславянскай мовы.**

— Шэраг маіх даследаванняў прысвечаны дзейнасці Ф. Скарыны і асаблівасцям мовы яго выданняў — адлюстраванню фанетычных рыс беларускай мовы ў скарынаўскіх выданнях, выкарыстоўванню ў іх чэшскай, польскай лексікі і г.д. Што тычыцца буйных помнікаў беларускай пісьменнасці, то тут адзначу «Вісліцкі статут», «Статут Вялікага Княства Літоўскага», «Аповесць пра Трою», «Метрыку Вялікага Княства Літоўскага» і інш.

**— Есць звесткі, што асноўная работа аддзела гісторыі беларускай мовы — распрацоўка слоўнікаў, у прыватнасці «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы».**

— Наш аддзел быў створаны напачатку 50-х гадоў. Асноўнай працай сталі «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957 г.). Кніга з'явілася адной з фундаментальных прац таго часу. Праз тры гады была выдадзена двухтомная «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы». Галоўнай работай аддзела пазней стала стварэнне «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Першая падобная спроба адносіцца да сярэдзіны XIX ст. Яна звязана з імем вядомага беларускага філолага Івана Насовіча. Але падрыхтаваны ім гістарычны слоўнік не быў выдадзены. Неабходнасць спецыяльнага слоўніка старабеларускай мовы разумеў Я. Ф. Карскі. Ідэя стварыць такі слоўнік узнавілася ў 1927 годзе ў Інбелкульце. Тады стварылі невялікую групу па распрацоўцы гістарычнага слоўніка. Але гэта работа па агульнавядомых прычынах не мела вынікаў. Толькі ў 1960 годзе былі абмеркаваны агульныя прынцыпы стварэння слоўніка і распачата падрыхтоўка спецыяльнай картатэкі, якая была закончана ў 1972 годзе. Усяго у ёй налічваецца 1 мільён 60 тысяч картак. Непасрэдную работу па падрыхтоўцы слоўніка мы распачалі ў 1973 годзе. Цяпер ужо выйшла 13 выпускаў слоўніка па 20 аркушаў кожны. У друку знаходзіцца 14-ы выпуск, падрыхтаваны 15-ы і 16-ы. Але невядома, ці выйдуць яны з друку, бо выдавецтва «Навука і тэхніка» патрабуе заплаціць за гэта грошы, а наш Інстытут не мае патрэбных сродкаў.

**— Ці ствараліся Вашым аддзелам паралельна са слоўнікам і іншыя працы?**

— Так. Першая праца «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» выйшла ў 1970 годзе, потым «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» у 1979 годзе, «Мова беларускай пісьменнасці» ў 1989 годзе. Зусім нядаўна, у 1990 годзе, была падрыхтавана і выдадзена кніга «Мова выданняў Францішка Скарыны».

**— Колькі навуковых супрацоўнікаў у аддзеле?**

— Дзевяць. У апошні час колькасць супрацоўнікаў стала скарачацца. Людзі вопытныя, працуюць доўгі час і са сваёй працай спраўляюцца добра. Шкада, што ў дадзены момант няма навуковых сіл, якія б маглі падняць іншыя пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

Распытвала
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

# Вучымся!

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАБУДЗІЦЬ (перарваць чый-н. сон, прымусіць прачнуцца) *Асцярожна, каб не пабудзіць суседзяў, я ўстаў, прыбраўся і расчыніў дзверы на балкон* (Хадкевіч), РАЗБУДЗІЦЬ [Хрысцюк] *сабе спакойненька падрэмваў увесь вечар на ложку, пакуль жонка не разбудзіла піць чай* (Дуброўскі). АБУДЗІЦЬ *Зосю абудзіў рык прыгнаных на ранкі кароў і прарэзлівыя гукі пастуховай трубы* (Гартны), ПАДНЯЦЬ (перарваўшы чый-н. сон, прымусіць устаць з ложка) [Апанас Фаміч:] — *Вячэраць і — спаць, сябры! А то заўтра мяне і стрэлам не паднімеце* (Ракітны), УЗНЯЦЬ (перарваўшы чый-н. сон, прымусіць устаць з ложка) *А заўтра ўзніме на світанні касцоў ледзь чутны звон травы* (А. Вольскі), РАСКАТУРХАЦЬ разм. (нямоцна штурхаючы, трасучы, абудзіць ад сну чалавека, які моцна спіць) *Мікола моцна спаў, праз сон чуў, як званіў будзільнік, але ён не падняўся, а толькі перавярнуўся на другі бок і зноў заснуў. А потым яго раскатурхала жонка* (Гаўрылкін), РАСШТУРХАЦЬ (штурхаючы разбудзіць, раскатурхаць) [*Уладзімір Мікалаевіч*] *пажаваў хлеба з каўбасою, і як кінуўся ў пасцель, адразу ж заснуў моцным сном — ледзь расштурхала Вера Андрэеўна раніцай на работу...* (Мыслівец), РАСТАРМАСІЦЬ разм. (тармосячы, разбудзіць, раскатурхаць) *Растармасіць соннага*, РАСШАВЯЛІЦЬ *Расшавяліць сонных дзяцей*. — *Незак:* **будзіць, разбу́джваць, абуджа́ць, падыма́ць, падніма́ць, узніма́ць, уздыма́ць, раскату́рхваць, расштурхо́ўваць, растармо́шваць, расшаве́льваць.**

ПАВАРУХНУЦЬ (*каго-што; дакрануўшыся да каго-, чаго-н.,* вывесці са стану спакою) *Лёска мая так заматалася, што потым нельга было і паварухнуць катушку* (Гаўрылкін), ВАРУХНУЦЬ *Вецярок праплыў па жыце, потым варухнуў травы, калючыя галінкі над галавой* (Кулакоўскі), ЗВАРУХНУЦЬ *Ляцелі нізенька жураўы, зварухнулі голлейка верхавін* (Дубоўка), ПАВАРУШЫЦЬ — *Ахрэм, устань... — нарэшце паварушыла* [*жонка*] *мужа за плячо* (Мележ). *Налітыя сокам каласы схіліліся долу і, абмытыя вячэрняй расой, пацяжэлі, і не мог паварушыць іх ціхі і цёплы ветрык* (Чарнышэвіч), ПАРУХАЦЬ *Толькі вецер рана зелень дрэў парухаў — падняліся хмары лёгкім, сінім пухам, паплылі, як гусі, адна за другою і маё дзесь сэрца адняслі з сабою* (Геніюш), КРАНУЦЬ *Патапчык дабраўся да кулёў, крануў іх рукою — зашамацелі* (Чарнышэвіч), ПАКРАТАЦЬ *Я падышоў і пакратаў Хрыстафора Адамавіча за рукаў паліто* (Крыга). ШАВЯЛЬНУЦЬ *А пазнаўшы, падаўся наперад да Панаса, шавяльнуў усмешкай густыя вусы і падаў руку* (Галавач), ПАШАВЯЛІЦЬ *Ляснік прычыніў дзверцы ў печцы, пашавяліў галавешкі* (Ігнаценка).

ПАВАРУШЫЦЬ (*чым;* зрабіць рухі якой-н. часткай цела) *Настачка ўпала, паварушыла пальцамі рук і заціхла* (Чорны), ПАКРАТАЦЬ *Дзед шматзначна пакратаў сваімі густымі бровамі і пачаў праводзіць нас за вароты* (Нікановіч), ПАШАВЯЛІЦЬ [*Гэлька*] *не магла пашавяліць ніводным пальцам* (Сташэўскі), ПАРУХАЦЬ *Зося парухала губамі, прыкусіла іх, мэрам бы хочучы праверыць, ці не пакінуў на іх Рыгор чаго-кольвечы* (Гартны).

ПАВЕЛІЧЭННЕ (у ко́лькасных адносінах; дзеянне паводле дзеяслова 1. Павялічыцца) *Выпілі і за Базыля Трайчанскага, за павелічэнне насельніцтва ў яго камяніцы* (Колас), РОСТ *Рост заработнай платы*, ПАВЫШЭННЕ *Адны даказвалі, што трэба завесці пародзістую жывёлу, тады і гаварыць аб павышэнні ўдояў* [Бялевіч], ПАМНАЖЭННЕ *Памнажэнне матэрыяльных здабыткаў.*

ПАВЕСТКА (афіцыйнае пісьмовае паведамленне з выклікам куды-н.) *І тых, каму ўручаліся павесткі, Дарога павяла ў ваенкамат* (Смагаровіч), ПОЗВА *У кішэні ляжала позва з'явіцца на зборны пункт ваенкамата з патрэбнымі* рэчамі (Лужанін).

ПАВЕТКА (пляцоўка пад страхой на слупах для захавання чаго-н. ад дажджу, непагоды) *Пад вялікай паветкай на двары стаіць многа вазоў* (Бядуля), ПАВЕЦЬ *Пад павець пачалі насіць мяхі з цэментам, згружаць цэглу* (Лупсякоў), ПАДПАВЕТКА *Цётка з усімі трыма дочкамі трапала лён у падпаветцы* (Васілевіч), ПАДПАВЕЦЬ *Прыехаўшы, Дарош паставіў у падпавець каня* (Мурашка).

**Філалагічныя згадкі**

## Як май змаяваў

**Летась мы пачалі друкаваць пад рубрыкай «Язык як перац» вобразныя народныя выразы. Іх сабраў Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі і склаў кароткі слоўнік «Беларускія народныя параўнанні», які выйшаў у выдавецтве «Вышэйшая школа» ў 1973 годзе. Пераважная большасць параўнанняў не патрабуе тлумачэння. Але трапляюцца ў слоўніку і такія, сэнс якіх не зусім зразумелы, прыкладам, *як май змаяваў*. У нашым уяўленні слова *май* звязваецца з нечым ласкавым, лагодным, прыемным. А ў гэтым параўнанні відавочны іншы сэнс. Прапануем чытачам паразважаць: што азначае выраз *Як май змаяваў?***

## Язык як перац

**Грукату як у млыне.**

**Грукоча, як колы на бруку.**

**Грыбкі як капыткі.**

**Грызе (есць), як іржа жалеза.**

**Грызуцца, як сабакі.**

**Грымнуў, як пярун.**

**Грымнуў, як хвоя аб зямлю.**

**Грэбаецца, як сляпы ў торбе.**

**Грэе, як месяц.**

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

## Адасобленыя акалічнасці

І.1. Неразвітыя акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі стаяць пасля паясняемага выказніка і маюць значэнне дадатковага дзеяння (выступаюць у функцыі другараднага выказніка) ці абазначаюць час дзеяння, прычыну, умову і г.д. (акрамя спосабу дзеяння): *У пячурцы трашчыць, палаючы, яловая лучына* (П. Галавач).

Калі неразвітыя адзіночныя акалічнасці абазначаюць спосаб дзеяння і стаяць непасрэдна пасля паясняемага выказніка ў канцы сказа, то яны не адасабляюцца і коскай не аддзяляюцца: *Жанкі падыходзілі гамонячы* (І. Мележ).

Але калі пасля такіх акалічнасцей знаходзяцца дададныя члены сказа, то ў гэтым разе яны адасабляюцца і аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Іду, не спяшаючыся, сонцу ўздагон* (У. Дубоўка).

2. Неразвітыя акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі стаяць перад паясняемым выказнікам: *Лес залатымі струнамі, ажыўшы, зазвінеў* (М. Танк).

Але калі адзіночныя акалічнасці абазначаюць спосаб дзеяння і цесна звязаны з паясняемым выказнікам, то яны не адасабляюцца і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Лабановіч не спяшаючыся ідзе далей* (Якуб Колас).

3. Развітыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі стаяць перад паясняемым выказнікам: *Спакойна засынаючы, сінеюць берагі* (Максім Танк).

**Заўвага.** Калі адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, маюць пабочнае значэнне, то яны заўсёды аддзяляюцца коскай: *Нічога не кажучы, бацька ўзяў шапку і выйшаў з хаты* (Якуб Колас).

4. Развітыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія стаяць пасля паясняемага выказніка, адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі інтанацыйна і сэнсава выдзяляюцца ў сказе: *Маўчыць зямля, набракшы сокам* (П. Прыходзька). *Хораша красуе жыта, сонца засланяючы сабой* (А. Вялюгін).

Коска не ставіцца:

калі акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, інтанацыйна і сэнсава не выдзяляюцца, а цесна звязаны з паясняемым выказнікам у сказе: *Яны ішлі вельмі спяшаючыся* (Я. Маўр). *Нор слухаў стаіўшы дыханне* (І. Шамякін);

калі акалічнасці выражаны дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія атрымалі пераноснае значэнне і сталі ўстойлівымі выразамі: *Маці працуе не разгінаючы спіны* (Кузьма Чорны). *Бацька таксама не сядзеў рукі склаўшы* (Якуб Колас).

5. Калі акалічнасці (развітыя і неразвітыя) выражаны адзіночнымі дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія размешчаны пасля прыслоўяў і звязаны з імі пры дапамозе злучніка **і**, то коска паміж не ставіцца, бо гэтыя словазлучэнні і прыслоўі выступаюць у ролі аднародных членаў сказа: *Лясніцкі пайшоў хутка і не азіраючыся* (М. Зарэцкі). *Імкліва і булькаючы выбягала з крынічкі вада* (Якуб Колас).

6. У тых выпадках, калі паміж выказнікамі і акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным словазлучэннем, ёсць узмацняльная часціца **і**, коска не ставіцца: *Чытаць можна і лежачы* (Якуб Колас). *Спаць можна лажыцца і не вячэраўшы* (Кузьма Чорны).

Не ставіцца коска таксама тады, калі перад дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным словазлучэннем знаходзяцца часціцы **толькі, нават:** *Маўчаць звычайна толькі сплючы* (Х. Шынклер).

7. Калі адасобленыя акалічнасці (неразвітыя і развітыя) знаходзяцца паміж аднароднымі выказнікамі са злучнікам **і**, то яны выдзяляюцца коскамі без гэтага злучніка: *Лукаш узяў ад старшыні паперку і, развітаўшыся, пайшоў з кабінета* (П. Галавач).

Калі пры адным з аднародных выказнікаў (звычайна апошнім у радзе) стаяць адасобленыя акалічнасці са злучнікам **а**, то яны выдзяляюцца коскамі разам з гэтым злучнікам: *Рыгор доўга шукаў выхад, а знайшоўшы, весела ўсміхнуўся і выйшаў з кватэры* (Цішка Гартны).

Але калі злучнік **а** звязвае два аднародныя выказнікі з супрацьлеглым значэннем, то адасобленыя акалічнасці пры іх выдзяляюцца коскамі без гэтага злучніка: *Ён не гаварыў, а, махаючы кулакамі, крычаў у натоўп* (П. Пестрак).

8. У тых выпадках, калі злучнік **і** звязвае дзве аднародныя акалічнасці, якія з'яўляюцца адасобленымі членамі сказа, знакі прыпынку паміж імі не ставяцца: *Хлопцы маўчалі, седзячы на беразе рэчкі і думаючы аб сваіх планах* (М. Лынькоў).

Калі ж такія акалічнасці звязаны бяззлучнікавай сувяззю, то паміж імі заўсёды ставіцца коска: *Хлопцы, штурхаючыся, перакідваючыся жартамі, пайшлі па лузе* (І. Мележ).

9. Калі адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, маюць пры сабе злучнікі або злучнікавыя словы **нібы, як, бы, быццам, дзе** і інш., то перад гэтымі сродкамі сувязі заўсёды ставіцца коска: *Аленка, нібы спалохаўшыся, раптам спынялася* (Якуб Колас).

*Працяг будзе.*

**Хачу ведаць**

***Сёння мы падаём старонку з «Слоўніка» нашай чытачкі спадарыні Галіны Кузьміч. Дзеля ўзбагачэння сваёй гутарковай мовы яна выпісала з вершаў некаторых нашых паэтаў радкі пра завіруху і сняжынкі. Мяркуем, што вынік самастойнай працы з кнігай спадарыні Галіны можа паслужыць прыкладам для іншых аматараў беларускай мовы і паэзіі.***

## Лютуе завіруха...

ЗАВІРУХА — гудзе, свішча, скуголіць, вые, пяе, гойкае.

ВІХУРА — усхадзілася, закружылася, засвавоціла, заскуголіла, застагнала, заскавытала, забушавала, загула.

А вось як напісалі пра гэтую з'яву нашы песняры:

«Сляпою мяцеліцай засціць мне вочы» (Н. Арсеннева).

«А за акном лютуе завіруха» (С. Грахоўскі).

«Падгуляла завіруха, пазмятала ў гурбы пух» (П. Панчанка).

«Навокал усё гуло, трэслася, выла, скуголіла... Пад вечар завея аціхла» (Якуб Колас).

«Разгулялася завіруха» (Якуб Колас).

«Засвавоціла, заскуголіла, застагнала завіруха», «І мяцеліцы з віхурамі закружаць» (А. Дзеружынскі).

«Развіхрылася віхура, закружыла ў танцах...» (Я. Непачаловіч).

СНЯЖЫНКІ — «залятаілі белыя, халодныя матылёчкі зімы», «сняжынкі замільгацелі», «сняжыначкі-зоры», «сняжынкі жвавыя гуляюць» (Якуб Колас).

«Сняжыначкі-пушыначкі ляцелі матылькамі», «Даліначкі сняжыначкі пакрылі дыванамі» (Змітрок Бядуля).

«Лётаюць, сыплюцца снежныя зоркі» (Янка Журба).

«Плакала мяцеліца сняжынкамі слёз» (У. Карызна).

«Карагоды зорак
Угары мігаюць
На зямлі сняжынкі
Сінім бляскам ззяюць»
**(Якуб Колас).**

«А сняжынкі сеюць
Кволую імглістасць,
Падаюць бялюткі
За маім акном»
**(Паўлюк Трус).**

«Годзе, сняжыначкі,
Сыпацца з неба,
Цёплага сонца
Чакае ўжо глеба»
**(Янка Журба).**

# Беларуская філалогія ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце

**I. КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ (16 выкладчыкаў, 2 лабаранты).**

Кафедра беларускай мовы і нацыянальнай культуры створана 1 верасня 1990 г. ўпершыню ў гісторыі Менскага лінгвістычнага універсітэта.

Загадчык кафедры кандыдат філалагічных навук, дацэнт (спецыяльнасць — беларуская мова) А. С. Сакалоўская (1937 г. нараджэння).

Публікацыі. Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі (Мн., 1970 (у сааўт.); Назвы адзення і абутку Прыпяцкага Палесся. — У кн. Лексіка Палесся (Мн., 1968); Спроба вызначэння лексічнай блізкасці дыялектаў. — Палессе (М., 1968); Введение в языкознание (краткий очерк) (Мн., 1982).

На кафедры працуюць чатыры секцыі: 1. Секцыя гісторыі беларускай мовы (загадчык — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Н. Ю. Паўлоўская). 2. Секцыя сучаснай беларускай мовы (загадчык — старшы выкладчык В. В. Рудакоўскі); 3. Секцыя беларускай літаратуры і культуры (загадчык — выкладчык В. У. Барысенка); 4. Секцыя перакладу (загадчык кандыдат філалагічных навук, дацэнт М. П. Навіцкі).

Кафедра абслугоўвае:

1) Групы ўсіх факультэтаў, дзе спецыяльнасцю з'яўляюцца замежныя мовы:

на I курсе — сучасная беларуская мова;

на II курсе — беларуская літаратура;

на III курсе — беларуская культура.

2) Групы на факультэтах англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай моў, дзе другой спецыяльнасцю з'яўляецца беларуская мова і літаратура:

на I курсе — стараславянская мова, гістарычная граматыка беларускай беларускі фальклор;

на II і III курсах — беларуская мова і беларуская літаратура;

на IV курсе — методыка выкладання беларускай мовы і літаратуры, практыка ў школе.

Выкладчыкі кафедры чытаюць спецкурсы па мове і літаратуры, праблемах перакладу.

На падрыхтоўчым аддзяленні выкладаецца беларуская мова і беларуская літаратура.

Выкладчыкі кафедры працуюць над праблемамі лексікаграфіі і лексікалогіі, перакладу, гісторыі развіцця беларускай мовы, узаемасувязі літаратур.

**II. КАФЕДРА ТЭАРЭТЫЧНАГА МОВАЗНАЎСТВА.** Гэта адна са старэйшых кафедраў МДЛУ. На кафедры працуе 4 дактары навук. Загадчык кафедры — доктар філалагічных навук, прафесар А. Я. Міхневіч (1936 г. нараджэння).

Найбольш значныя працы. Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове (Мн., 1965); Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы (Мн., 1976); Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі, у 2-х тамах (14 моў. Прага, 1977—79); Этымалагічны слоўнік беларускай мовы (у сааўт.), Беларуская граматыка, т. II (у сааўт.).

**III. НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ЦЭНТР «СЛОЎНІК»** (4 супрацоўнікі, з іх 2 няштатныя). Створаны ў 1992 годзе. Працуе над стварэннем іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных слоўнікаў.

Загадчык НДЦ кандыдат філалагічных навук (спецыяльнасць германскія мовы), дацэнт Т. М. Суша (1941 г. нараджэння). Узначальвае цэнтр з 1992 года.

Публікацыі. Семантико-синтаксические свойства имен действия в современном английском языке (Мн., 1972); Лексический минимум по английскому языку как второй специальности с учетом соответствий в немецком и французском языках (Мн., Выш. школа, 1981 (у сааўт); Англа-беларуска-рускі слоўнік (Мн., БелСЭ, 1989 (у сааўт.).

**IV. НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ЦЭНТР «ПАДРУЧНІК».** Створаны ў кастрычніку 1992 г. Яго мэта — весці работу па стварэнні серый падручнікаў па замежных мовах для дашкольнай, школьнай, а таксама сістэмы вышэйшай і поствышэйшай адукацыі. У выніку азначанай працы Беларусь павінна займець уласную сістэму навучання замежным мовам на беларускай аснове.

Загадчык НДЦ кандыдат педагагічных навук (спецыяльнасць — методыка выкладання замежных моў), прафесар А. А. Вейзе. Узначальвае цэнтр з моманту яго заснавання.

Публікацыі. Падручнік англійскай мовы для 5 класа сярэдняй школы (першы год навучання). Выдавецтва «Вышэйшая школа» (здадзены ў друк). На беларускай моўнай аснове (у сааўт.); Падручнік англійскай мовы для 6 класа сярэдняй школы (другі год навучання). Выдавецтва «Вышэйшая школа» (падрыхтоўка да друку). На беларускай аснове (у сааўт.); «Чытай пасля ўрокаў». Дапаможнік па чытанню ў 5—6 класах сярэдняй школы. На беларускай аснове. Выдавецтва «Беларусь» (у друку) (у сааўт.).

**V. НДЦ «ПЕРАКЛАД».** Навукова-даследчы цэнтр «Пераклад» функцыяніруе з кастрычніка 1992 г. Кіраўнік — прафесар П. І. Копанеў, намеснік — дацэнт М. П. Навіцкі. Яго мэта — лінгва-філалагічныя і навучальна-метадычныя даследаванні міжмоўнай камунікацыі і навучання яе розным відам, формам ды жанрам. Яны базіруюцца на абагульненні найноўшых вынікаў трансляцыйнай тэорыі (на аналізе дасягненняў перакладчыцкай практыкі). Іх аб'ектамі з'яўляюцца, з аднаго боку, англійская, нямецкая, французская і іншыя рамана-германскія мовы, з другога — беларуская, руская, украінская і іншыя славянскія мовы.

Цэнтр аб'ядноўвае выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў, а таксама прэтэндэнтаў, якія ўжо працуюць ці будуць працаваць над манаграфіямі, дысертацыямі, кандыдацкімі і доктарскімі, навучальнымі дапаможнікамі і падручнікамі па праблемах агульнага і прыватнага перакладазнаўства, і мяркуе шырока супрацоўнічаць з выкладчыкамі кафедраў замежных моў і з зацікаўленымі кафедрамі і філолагамі Беларусі, блізкага і далёкага замежжа, у тым ліку па білатэральных даследаваннях у рамках Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў (ФІТ).

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Як беларусы змагаліся супраць расейскага панавання?

Існуе думка пра нібыта адвечную санлівую пакорлівасць нашага народа. Аднак не хто-небудзь іншы, а якраз нашы продкі на працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі Расеяй тройчы браліся за зброю, каб вырвацца са смяротных абдымкаў імперыі.

Увесну 1794 года беларусы разам з палякамі і жамойтамі падняліся на паўстанне, якое ўзначаліў наш зямляк Тадэвуш Касцюшка. На беларускіх землях барацьбой кіраваў палкоўнік Якуб Ясінскі. Ён хацеў знішчыць прыгон, пісаў па-беларуску звернутыя да сялян вершаваныя пракламацыі. Змагары спявалі «Песню беларускіх жаўнераў»:

**Помнім добра, што рабілі,**
**Як нас дзёрлі, як нас білі.**
**Д... уль будзем так маўчаці?**
**Г... зе нам сядзець у хаце!**
**Нашто землю нам забралі?**
**Пашто ў путы закавалі?**
**Дочкі, жонкі нам гвалцілі.**
**Трэ, каб мы ім заплацілі!**
**Коней нам пазаязджалі,**
**Што хацелі, то і бралі.**
**Пойдзем жыва да Касцюшкі,**
**Рубаць будзем маскалюшкі!**

Паўстанцы ўзялі ўладу ў Вільні, Горадні, Наваградку, Берасці, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Кобрыне, Ашмяне, Лідзе, Браславе. Але сілы былі няроўныя. Загартаваная ў захопніцкіх паходах царская армія, на чале якой стаяў А. Сувораў, задушыла паўстанне.

Барацьба з царскай уладаю, што зрабіла Беларусь калоніяй, не спынялася. Віленская студэнцкая моладзь стварыла таемнае таварыства філаматаў, моцная філія якога дзейнічала ў Полацкай піярскай вучэльні. Беларускі паэт і рэвалюцыянер Францішак Савіч у 1836 годзе арганізаваў у Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства», якое працягвала традыцыі разгромленых царызмам у 1823 годзе філаматаў.

У 1831 годзе Беларусь падтрымала антырасейскае паўстанне ў Польшчы. Найбольш чынная барацьба разгарнулася ў Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісненскім і Віленскім паветах, а таксама ў ваколіцах Белавежскай пушчы. Трохтысячны шляхецка-сялянскі аддзел заняў і колькі дзён утрымліваў горад Дзісну. Царызм задушыў паўстанне і ўзмацніў каланіяльны ўціск. Былі зачыненыя Віленскі універсітэт і іншыя навучальныя ўстановы, а таксама шэраг вуніяцкіх кляштароў, бо беларускае грэка-каталіцкае духавенства падтрымлівала паўстанцаў.

Але рэпрэсіі не паставілі народ на калені. У студзені 1863 года беларусы, як і іх браты па няволі ў Жамойці і Польшчы, зноў узяліся за зброю. На Беларусі паўстаннем кіраваў Кастусь Каліноўскі. Разам са сваімі паплечнікамі ён выдаваў па-беларуску газету «Мужыцкая праўда», якая выкрывала расейскую палітыку на паняволенай зямлі і клікала народ на змаганне. «Падумайце добра да, памаліўшыся Богу, станьма дружна за нашу вольнасць! Нас цар ніц не падмане,— не падвядуць маскалі: няма для іх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба, для іх мы глухія і нямыя — нічога не бачылі і не чулі»,— пісаў ён у адным з нумароў газеты пад псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні».

Напачатку паўстанцы здолелі атрымаць некалькі значных перамогаў. Аддзел начальніка Магілеўскай губерні Людвіка Звяждоўскага заняў горад Горкі. Паўстанцы авалодалі мястэчкам Свіслач і напалі на Ружаны.

Расейскім уладам удалося падмануць значную частку беларускага сялянства (асабліва на ўсходзе Беларусі), якое паверыла, што «паны змагаюцца за вяртанне прыгону», а таму не падтрымала паўстанцаў. Ва ўсходнебеларускіх губернях паўстанне было задушана ў траўні, але на захадзе асобныя невялікія аддзелы змагаліся з карнікамі да канца 1863 года.

Царызм жорстка расправіўся з барацьбітамі за свабоду Бацькаўшчыны. Пакараных ваенна-палявымі судамі і без судоў у «Паўночна-Заходнім краі» налічвалася 18.5 тысячы. 128 паўстанцаў былі расстраляныя або павешаныя, 853 пайшлі на катаргу, 11 502 — у ссылку.

Нягледзячы на рэпрэсіі, жорсткі прыгнёт і русіфікацыю, ідэя нацыянальнага вызвалення, за якую змагаліся беларусы, працягвала жыць. У 1884 годзе ў Пецярбургу пачаў выходзіць часопіс «Гомон», які быў органам беларускай фракцыі рэвалюцыйнай арганізацыі «Народная воля». «Гоманаўцы» вялі гаворку пра існаванне беларускай нацыі і патрабавалі яе самастойнасці пасля знішчэння царызму. Заснавальнікам сваёй фракцыі яны лічылі нашага земляка шляхціча Ігната Грынявіцкага, які ў 1881 годзе, выконваючы прысуд «Народнай волі», забіў цара Аляксандра II.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

## Як беларусы страцілі сваю дзяржаўнасць?

Беларускае гаспадарства было зліквідавана ў канцы XVIII стагоддзя. Да гэтага спрычыніліся нашы як заходнія, гэтак і ўсходнія суседзі.

Увесну 1791 года ў часе Вальнага Сойму польскія магнаты і апалячаная беларуская шляхта, імкнучыся ўмацаваць Польшчу, над якой навісла пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расеі, заявілі пра неабходнасць увядзення спадчыннай манархіі і зліквідавання адметных дзяржаўных структураў Вялікага Княства. Так здзейснілася шматвяковая мара нашых заходніх суседзяў. Беларускае гаспадарства з гэтага моманту дэ юрэ ўвайшло ў склад Польшчы. Праўда, не надоўга. У траўні 1782 года расейская армія пад камандаваннем Крэчэтнікава захапіла Вільню і ўсталявала кантроль над нашымі землямі. А ў 1793 годзе Расейская імперыя анексавала цэнтральную частку Беларусі (усходнія землі былі забраныя яшчэ раней — у 1772 годзе).

Часовае аднаўленне беларускай дзяржаўнасці адбылося ў 1794 годзе ў перыяд супрацьрасейскага паўстання пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага. Але створаная тады Найвышэйшая Літоўская Рада, якой належалі ўсе паўнамоцтвы, праіснавала толькі некалькі месяцаў: паўстанне было жорстка задушана.

У 1795 годзе, калі Расея дарэшты захапіла Беларусь, распараджэннем Кацярыны II нашыя землі ўвайшлі ў тры створаныя тады адміністрацыйныя адзінкі — генерал-губернатарствы: Беларускае (Полацкая і Магілеўская губерні), Літоўскае (Слонімская і Віленская губерні ды дзве вобласці — Ковенская і Гарадзенская) і Падольскае (Менская, Валынская і Падольская губерні).

Спробы аднавіць Вялікае Княства Літоўскае былі ў 1811 і ў 1812 гадах. Хоць гэтыя праекты і не мелі прыкметных гістарычных вынікаў, аднак яны з'яўляюцца красамоўным сведчаннем геапалітычнай неабходнасці існавання адметнай дзяржавы ў геаграфічным цэнтры Еўропы.

Такім чынам, аніякага «ўз'яднання» Беларусі з Расеяй, як гэта тэндэнцыйна сцвярджалася ў савецкай гістарычнай літаратуры, не было. Меў месца гвалтоўны захоп, у выніку якога тэрыторыя Беларусі была далучаная да Расеі і наш народ на дзвесце гадоў трапіў у маскоўскую няволю.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

